*Т.А. НАВАГРОДСКІ, А.А. ГУЖАЛОЎСКІ, І.Р. ТОМАШАВА*

## АКТУАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ БЕЛАРУСКАЙ ЭТНАЛОГІІ, МУЗЕЯЛОГІІ І ГІСТОРЫІ МАСТАЦТВАЎ

Рассматриваются актуальные проблемы белорусской этнологии, музеологии и истории искусств. Показан вклад преподавателей кафедры в изучение этих вопросов.

The article deals with current problems of the Belarusian ethnology, museology and art history. The contribution of teachers of the department in  these issues are discribed.

Этналогія займае важнае месца ў сістэме гуманітарных навук у ВНУ нашай краіны. Тэрмін «этналогія» адносна новы. Ён пачаў выкарыстоўвацца з 1990-х гг. замест тэрміна «этнаграфія» і ўказвае больш на тэарэтычны характар навукі, дзе побач са зборам і сістэматызацыяй матэрыялу робяцца важныя тэарэтычныя высновы. Роля этналогіі як навукі ў сучасным грамадстве пастаянна ўзрастае. Гэта перш за ўсё звязана з тымі функцыямі, якія яна выконвае. Адна з важнейшых – навукова-пазнавальная. Этналагічная навука ажыццяўляе пазнанне этнічных рэалій, фарміруе веды аб этнічнай карціне свету ў розныя гістарычныя эпохі і ў наш час, даследуе характар і асаблівасці этнічных працэсаў ва ўсіх рэгіёнах нашай планеты. Этнолагі імкнуцца высветліць заканамернасці паходжання, развіцця, будовы і функцыянавання этнасаў, а таксама вызначыць тэндэнцыі іх існавання ў будучым. На аснове гэтых ведаў этналогія ўдасканальвае свае тэарэтычныя ўяўленні і выкарыстоўвае іх для тлумачэння прыроды і характару этнічных працэсаў, якія адбываліся ў гісторыі і адбываюцца зараз. Абапіраючыся на сваю навукова-пазнавальную функцыю, этналогія імкнецца пераадолець этнічныя стэрэатыпы, нярэдка характэрныя для побытавой свядомасці людзей, і тым самым садзейнічаць узаемаразуменню і канструктыўнаму супрацоўніцтву паміж народамі. Важнай функцыяй таксама з'яўляецца неабходнасць самапазнання кожнага асобнага народа-этнасу. Навуковыя веды аб этнасах часта супрацьстаяць абывацельскім уяўленням і нацыянальным міфам. Функцыя сапраўды навуковага самапазнання выконваецца этнолагамі шляхам збору, назапашвання і аналізу гістарычнага вопыту жыцця народаў. Гэты вопыт мае значэнне як абагульненне і захаванне традыцый матэрыяльнай, духоўнай і сацыяльнай культуры, але нярэдка бывае карысным пры складванні сучасных форм куль-

туры, а таксама пры рашэнні эканамічных і тэхнічных задач. Культурныя традыцыі народнага дойлідства, харчавання, земляробства могуць быць з карысцю прыменены і ў наш час. Усе гэтыя і некаторыя іншыя функцыі этналогіі робяць яе надзвычай актуальнай і запатрабавальнай. Таму выкладанне дадзенай навукі ў вышэйшых навучальных установах (і не толькі гуманітарнага профілю) – адна з прыярытэтных задач, якія неабходна вырашаць у наш час.

Этналогія як вучэбная дысцыпліна зараз выкладаецца на гістарычных факультэтах у ВНУ нашай краіны. Створаны кафедры, дзе гэтай навуцы надаецца шмат увагі. У Беларускім дзяржаўным універсітэце этналогія выкладалася на кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін, а ў 2001 г. была створана кафедра этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў. Вядзецца падрыхтоўка гісторыкаў па спецыялізацыі «этналогія». Студэнтам, акрамя агульных тэарэтычных курсаў «Этналогія і этнаграфія Беларусі», «Сацыяльна-культурная антрапалогія», выкладаецца шэраг спецыяльных курсаў: «Метады палявых этнаграфічных даследаванняў», «Гісторыя этналагічных вучэнняў», «Этнічная гісторыя Беларусі», «Гісторыя беларускай этналогіі», «Актуальныя праблемы беларускай этналогіі», «Матэрыяльная культура беларусаў», «Традыцыйная абраднасць беларусаў», «Этнафалькларыстыка» і інш. Разнастайнасць спецкурсаў, семінараў і іншых форм навучання садзейнічае росту інтарэсу студэнтаў да этналагічнай праблематыкі.

Пасля першага курса праводзіцца выязная этнаграфічная практыка, дзе на працягу трох тыдняў студэнты маюць магчымасць замацаваць веды, атрыманыя ў выніку вывучэння тэарэтычных асноў этналогіі. Па спецыяльна распрацаванаму апытальніку студэнты-этнолагі вучацца збіраць палявы этнаграфічны матэрыял, авалодваюць такімі відамі работы ў этнаграфічнай экспедыцыі, як асабістае назіранне, гутарка з мясцовымі жыхарамі, збор этнаграфічных прадметаў і інш. У рабоце такіх экспедыцый прымаюць актыўны ўдзел студэнты старшых курсаў спецыялізацыі «этналогія», а таксама аспіранты кафедры, якім гэта дае магчымасць сабраць палявы этнаграфічны матэрыял для будучых дысертацый. Матэрыялы апошніх экспедыцый у вёскі Моталь і Тышкавічы Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці ў ліпені 2009 і 2010 гг. былі часткова надрукаваны («Народная кухня маталян» – Мн., 2009 і «Народная кухня тышкаўцоў» – Мн., 2010). Выкладчыкі кафедры паспяхова займаюцца даследаваннем актуальных праблем беларускай этналогіі. На кафедры распрацоўваюцца праблемы этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў (М.Ф. Піліпенка)[1], традыцыйнай культуры беларусаў (Т.А. Навагродскі, І.С. Махоўская)[2], этнічных груп Беларусі (У.І. Медзянік, С.А. Захаркевіч, Ю.І. Унуковіч)[3], гісторыі беларускай этналогіі (А.І. Махнач, М.А. Міхайлец, І.У. Алюніна)[4]. Супрацоўнікамі кафедры падрыхтавана новая тыпавая праграма, абноўлены з улікам апошніх напрацовак у этналогіі вучэбныя праграмы па агульных і спецыяльных курсах, праводзіцца выкладанне па модульна-рэйтынгавай сістэме, ажыццяўляецца кантроль за самастойнай работай студэнтаў па этналогіі. У якасці адной з форм кантралюемай самастойнай работы студэнтам прапануецца падрыхтоўка рэцэнзіі на адну з навуковых работ па этналогіі Беларусі. Значнай падзеяй стала выданне вучэбна-метадычнага дапаможніка з грыфам Вучэбна-метадычнага аб’яднання ВНУ Беларусі па гуманітарнай адукацыі «Этналогія Беларусі: традыцыйная культура насельніцтва ў гістарычнай перспектыве»[5]. Лепшыя выпускнікі кафедры працягваюць навучанне ў магістратуры і аспірантуры па спецыяльнасці «Этнаграфія, этналогія і антрапалогія». Па праблемах этналогіі, якія распрацоўвае кафедра, за апошнія гады паспяхова абаронена пяць кандыдацкіх дысертацый. Пад кіраўніцтвам члена-карэспандэнта НАН Беларусі, прафесара М.Ф. Піліпенкі на кафедры вядзецца актыўная работа па падрыхтоўцы доктарскіх дысертацый. Пры кафедры створаны і актыўна працуе навуковы студэнцкі гурток «Гарадская этналогія» (кіраўнік – С.А. Захаркевіч). Дзейнасць гуртка накіравана на фарміраванне ў студэнтаў навыкаў палявога антрапалагічнага даследавання і апрабацыю аналітычнай апрацоўкі сабранага матэрыялу на навуковых канферэнцыях. Студэнты вывучаюць працэсы ўрбанізацыі, карэнных змен у горадзе, трансфармацыю яго прасторы, традыцый. Праводзяцца сустрэчы з этнолагамі з НАН Беларусі, рэгіянальных ВНУ, а таксама пастаяннае знаёмства студэнтаў з навінкамі навуковай літаратуры.

Акрамя БДУ, кафедры этналогіі і фалькларыстыкі ёсць у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, кафедра этналогіі і археалогіі – у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. Актыўна развіваецца этналогія на кафедры гісторыі Беларусі ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны і на кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі ў Полацкім дзяржаўным універсітэце. Тут чытаюцца агульныя курсы па этналогіі, рыхтуюцца дыпломныя і магістарскія работы. Выкладчыкі актыўна распрацоўваюць шэраг новых актуальных праблем. Праблемы матэрыяльнай культуры даследуе прафесар БДПУ В.С. Цітоў[6]. Ім выдадзены вучэбны дапаможнік у дзвюх частках «Этнаграфічная спадчына», а таксама апублікаваны шэраг грунтоўных прац. Гарадской этналогіяй паспяхова займаецца дацэнт ГДУ А.Р. Яшчанка[7]. На аснове архіўных матэрыялаў, апублікаваных этнаграфічных работ, а таксама экспедыцыйных матэрыялаў ёю даследуецца культура гарадскога насельніцтва Беларусі канца XIX–XXI стст. Народную медыцыну, уяўленні аб прасторы і часе ў традыцыйным светапоглядзе беларусаў вывучае дацэнт ПДУ У.А. Лобач[8], а народныя гульні і цацкі – старшы выкладчык С.У. Касцюке-

віч[9]. Гістарыяграфію праблемы сям'і беларусаў даследуе дацэнт Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта Н.Я. Луйгас[10], а народнай педагогікай Палесся займаецца выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна С.П. Жлоба[11]. Рэгулярна арганізуюцца і праводзяцца студэнцкія этнаграфічныя экспедыцыі, матэрыялы якіх актыўна выкарыстоўваюцца ў вучэбна-выхаваўчым працэсе гэтых навучальных устаноў.

Этнолагі ажыццяўляюць работу па фарміраванню ўстойлівай цікавасці ў моладзі да вывучэння гэтай важнай дысцыпліны, пастаянна працуюць над захаваннем і ўзмацненнем навуковай накіраванасці сваёй дзейнасці, над тым, каб этналогія служыла фундаментальным інтарэсам грамадства, перш за ўсё – канструктыўнаму супрацоўніцтву між народамі. Этнолагаў чакае наперадзе інтэнсіўная праца ў экспедыцыях, архівасховішчах, бібліятэках, музейных фондах і інш. Сусветны і айчынны вопыт сведчыць аб тым, што будучая дзейнасць у гэтай галіне павінна адрознівацца ў параўнанні з мінулым якасна новымі асаблівасцямі. Патрабаванні, што прад'яўляюцца многімі сучаснымі даследчыкамі, заключаюцца ў тым, каб такая інфармацыя была сабрана і захоўвалася ў больш арганізаваным і сучасным выглядзе – у выглядзе банкаў дадзеных па розных аспектах этналагічнай навукі, якія мелі б аўтаматызаваныя інфармацыйна-пошукавыя сістэмы. Неабходна ажыццяўляць работу па камп'ютарызацыі шматлікай этнаграфічнай інфармацыі, шырэй яе выкарыстоўваць пры напісанні курсавых і дыпломных работ, пры падрыхтоўцы навуковых дакладаў на канферэнцыях. Палявыя этнаграфічныя матэрыялы павінны стаць больш даступнымі для выкарыстання іх студэнтамі і выкладчыкамі-этнолагамі ў розных навучальных установах краіны. Застаюцца пакуль што не дастаткова распрацаванымі многія надзвычай актуальныя праблемы этналогіі. Ажыццяўленне ўсёй гэтай вялікай і адказнай працы будзе ў значнай ступені залежаць ад узроўню кваліфікацыі і неабходнай колькасці кадраў прафесійных этнолагаў, ад тых, каму давядзецца працаваць у будучым. Усё гэта вымагае ад этнолагаў, якія сёння выкладаюць у вышэйшых навучальных установах краіны, напружанай працы, адказнасці і разумення важнасці сваёй дзейнасці для далейшага развіцця этналагічнай навукі.

У постіндустрыяльным грамадстве інфармацыя становіцца стратэгічна важным рэсурсам і ўплывае на ўсе сферы чалавечай дзейнасці, у тым ліку і на музейную. Музеі як сховішчы «калектыўнай памяці» чалавецтва валодаюць унікальнай інфармацыяй культурнага значэння, заключанай у матэрыяльных помніках мінулай і сучаснай эпох. Яе выяўленне, даследаванне і прэзентацыя шырокай публіцы з'яўляюцца адначасова і сацыяльнымі функцыямі музеяў і задачай сённяшняга дня. Працэсы глабалізацыі, якія характарызуюць сучасную эпоху, патрабуюць ад музеяў перагледзець сваю ролю ў грамадстве, выйсці за рамкі традыцыйных функцый і сістэм і павярнуцца тварам да тых працэсаў і з'яў, якія адбываюцца ў свеце.

Музеі Беларусі, бадай, як ніякія іншыя ўстановы культуры, нясуць на сабе адбітак усіх праблем, што стаяць перад грамадствам у перыяд глыбокіх пераўтварэнняў: фінансавыя цяжкасці, змена каштоўнасных арыенціраў, пашырэнне сацыяльных функцый і г. д. У такой сітуацыі айчынныя музеёлагі пачалі ўсур'ёз задумвацца над глыбінным сэнсам музейнай справы і займацца пошукамі новых накірункаў, сродкаў і метадаў музейнай работы. Сёння на шматлікіх канферэнцыях, семінарах, трэнінгах змены ў беларускіх музеях усё часцей разумеюцца ў кантэксце маштабнай мадэрнізацыі айчыннай музейнай справы. Яе мэта – вывад музейнай галіны на якасна новы ўзровень праз удасканаленне сістэмы кіравання, паляпшэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы, структурнае рэфармаванне ўсіх відаў музейнай дзейнасці, павышэнне прафесійных стандартаў, развіццё новых інфармацыйных тэхналогій і разумную камерцыялізацыю пры захаванні базавых функцый музеяў, іх грамадскай місіі і прафесійных этычных стандартаў.

Такім чынам, у XXI ст. музеі сутыкнуліся з неабходнасцю вырашэння шырокага дыяпазону праблем ад філасофскіх асноў помнікаахоўнай дзейнасці да грамадскіх чаканняў і патрабаванняў рынку. Да ключавых праблем музейнай справы Беларусі, якія адначасова ўтвараюць праблемнае поле айчыннай музеялогіі, адносяцца:

*Развіццё музейнай сеткі:*

• яе версіфікацыя, з'яўленне новых тыпаў музеяў і ўдасканаленне старых;

• развіццё прыватнага і грамадскага сектара ў музейнай сферы;

• развіццё гарызантальных сувязей музеяў, удасканаленне сістэмы кіравання музейнай справай, пашырэнне інфармацыйных гарызонтаў беларускіх музеяў.

*Матэрыяльна-тэхнічная база музеяў:*

• рэканструкцыя і тэхнічнае абсталяванне музейных фондасховішчаў, мадэрнізацыя сістэмы аховы, распрацоўкі тыпавога фондасховішча музея і сістэмы жыццезабеспячэння музейных прадметаў;

• рэканструкцыя старых музейных будынкаў і прыстасаванне іх пад музейныя патрэбы;

• пабудова спецыяльных музейных будынкаў, распрацоўка крытэрыяў развіцця спецыфічна музейнай архітэктуры;

• развіццё і ўмацаванне музейнай інфраструктуры (дарогі, добраўпарадкаванне будынкаў, стварэнне інфармацыйных службаў, рэкрэацыйных і гандлёвых зон);

• мадэрнізацыя тэхнічнага абсталявання музеяў, у тым ліку іх камп'ютарызацыя і інтэрнэтызацыя.

*Дзяржаўная фінансавая палітыка ў дачыненні да музеяў*:

• дзяржаўнае фінансаванне базавых музейных функцый, уключаючы камплектаванне асноўнага фонду;

• стварэнне новых гаспадарчых механізмаў, якія б стымулявалі творчую актыўнасць музеяў;

• змяненне падатковай палітыкі ў дачыненні да музеяў, фарміраванне сістэмы падатковых ільгот;

• стымуляванне творчасці музейных супрацоўнікаў і заахвочвання музеяў;

• укараненне праектных метадаў фінансавання музейнага працэсу;

• камерцыялізацыя асобных форм музейнай дзейнасці.

*Захаванне, вывучэнне і выкарыстанне Музейнага фонду Рэспублікі Беларусь*:

• развіццё камп'ютарных тэхналогій у музейнай практыцы, музейная інтэрнэтызацыя, інтэграцыя існуючых музейных інфармацыйных рэсурсаў у нацыянальны інтэрнэт-партал «museum.by»;

• стварэнне дзяржаўнага зводнага каталога музейных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, асноўныя накірункі яго дзейнасці;

• развіццё прэвентыўнай кансервацыі і рэстаўрацыі музейных прадметаў, стварэнне рэспубліканскага цэнтра музейнай кансервацыі і рэстаўрацыі, а таксама нацыянальнай школы па падрыхтоўцы музейных кансерватараў і рэстаўратараў;

• распрацоўка рэспубліканскай праграмы камплектавання музейнага фонду Рэспублікі Беларусь і прыярытэтнае накіраванне на набыццё асабліва каштоўных рэчаў музейнага значэння цэнтралізаваных дзяржаўных сродкаў, арганізацыя рэспубліканскага фонду па камплектаванню асабліва каштоўных помнікаў гісторыі і культуры;

• прэзентацыя музейных прадметаў на пастаянных і часовых музейных экспазіцыях;

• развіццё выставачнай дзейнасці музеяў як на ўзроўні ўнутраных, так і на ўзроўні знешніх карпаратыўных праектаў;

• стварэнне сістэмы музейнай індустрыі па праектаванню і вырабу фондавага і экспазіцыйнага абсталявання;

• маніторынг захавання музейнага фонду і ажыццяўленне сістэмы мер па забеспячэнню яго бяспекі.

*Музейна-камунікатыўная палітыка:*

• развіццё актыўных сувязей музеяў з рознымі грамадскімі інстытутамі, у тым ліку з адукацыйнымі, фарміраванне эфектыўнай сістэмы сацыяльнага партнёрства;

• стварэнне адукацыйных праграм для розных катэгорый наведвальнікаў, іх далучэнне, перш за ўсё моладзі, да розных музейных інтэграцыйных праграм і праектаў;

• пашырэнне кола музейных наведвальнікаў за кошт патэнцыяльнай і мэтавай аўдыторый;

• сістэма інфармавання грамадскасці пра дзейнасць музеяў, выкарыстанне сродкаў масавай інфармацыі, рэкламы і ўнутраных музейна-камунікатыўных каналаў;

• выкарыстанне магчымасцей музеяў ва ўнутраным і міжнародным турызме, музейных устаноў як арганічнай часткі турысцкіх маршрутаў;

• развіццё міжнародных сувязей і супрацоўніцтва ў межах розных помнікаахоўных арганізацый, у тым ліку Міжнароднага савета музеяў;

• выкарыстанне навуковага патэнцыялу музеяў для ідэнтыфікацыі і папулярызацыі нацыянальнай культурнай спадчыны;

• удасканальванне музейнага сэрвісу.

*Фарміраванне музейнага лідарства і прафесіяналізму:*

• стварэнне сістэмы музейнай акрэдытацыі, якая накіравана на павышэнне прэстыжу музейнай установы, удасканаленне яе арганізацыйнай структуры, стымуляванне творчага патэнцыялу і павышэнне прафесійных стандартаў;

• развіццё музейнага менеджменту і стварэнне дзяржаўнай праграмы па фарміраванню музейнага лідарства;

• увядзенне элементаў рынкавай інфраструктуры ў музейную сістэму (развіццё рэкламы, маркетынгавых тэхналогій і інш.);

• удасканаленне сістэмы прафесіянальнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі музейных спецыялістаў;

• развіццё музеялагічных ведаў як базавых для паляпшэння музейнай практыкі, фарміраванне беларускай музеялагічнай навуковай школы.

*Удасканаленне нарматыўна-прававой базы:*

• прыняцце новай, дапрацаванай, згодна з сучаснымі патрабаваннямі, рэдакцыі Закона «Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь»;

• распрацоўка і ўкараненне сістэмы нарматыўна-прававой дакументацыі адпаведна новых палажэнняў Закона.

Падобнае разуменне актуальнай праблематыкі музейнай справы Беларусі вызначае асноўныя напрамкі сучасных музеялагічных даследаванняў на кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў БДУ. Яе стварэнне ў 2001 г. было адказам на надзённую патрэбу ў прафесійнай падрыхтоўцы му-

зейных супрацоўнікаў, выпрацоўцы сучасных методык і тэхналогій, суаднясенні айчыннага прафесійнага вопыту з сусветнымі музейнымі стандартамі. Адразу ж пасля стварэння кафедры прафесар А.А. Гужалоўскі распачаў даследаванні гістарычна-музейнай праблематыкі. Калі гісторыя музейнай справы Беларусі ад яе зараджэння да канца XX ст. знайшла ўвасабленне ў яго трох манаграфіях, то спроба даць гістарычы агляд музейнай справы ў сусветным маштабе была зроблена ў вучэбным дапаможніку сумесна з прафесарам кафедры музеязнаўства і экскурсазнаўства Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта культуры і мастацтва В.П. Грыцкевічам[12]. Дацэнт Л.У. Бярэйшык паралельна вывучала вопыт арганізацыі музейнай справы за мяжой, які быў абагульнены ў адзіным у краінах СНД вучэбным выданні[13]. Сёння выкладчыкі і аспіранты кафедры, у тым ліку Н.М. Здасюк і І.М. Сімакова, засяродзіліся на асэнсаванні сучасных працэсаў, якія адбываюцца ў музейнай сферы краіны[14].

У апошні час адным з прыярытэтных напрамкаў у развіцці кафедры з'яўляецца спецыялізацыя «гісторыя мастацтваў». З моманту стварэння кафедры ў яе штаце знаходзіліся спецыялісты-мастацтвазнаўцы, якія ажыццяўлялі падрыхтоўку студэнтаў спецыяльнасці «Музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны» па вучэбнай дысцыпліне «Усеагульная гісторыя мастацтваў», а таксама займаліся актыўнай навуковай дзейнасцю.

Значны ўклад у развіццё кафедры і ў прапаганду айчыннага мастацтва ўнесла доктар мастацтвазнаўства, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар Надзея Фёдараўна Высоцкая. Аўтар вядомых прац па гісторыі старажытнабеларускага мастацтва («Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII–XVIII стст.», «Іканапіс Беларусі XV–XVIII» і інш.), Надзея Фёдараўна вядома сваімі шырокімі навуковымі інтарэсамі. У апошні час яна паспяхова даследуе праблемы крыніцазнаўства ўсеагульнай гісторыі мастацтваў, пытанні праваслаўнай і каталіцкай іканаграфіі, агіяграфіі, займаецца атрыбуцыяй, экспертызай і ацэнкай помнікаў XII–XVIII стст. Пад непасрэдным кіраўніцтвам Н.Ф. Высоцкай некалькі выпускнікоў кафедры паспяхова абаранілі кандыдацкія дысертацыі на актуальныя для айчыннага мастацтва тэмы (І. Томашава, К. Лавыш, А. Пыко).

Спецыялістам высокага ўзроўню (найперш у галіне манументальнага жывапісу Беларусі XVII–XIX стст.) з'яўляецца дацэнт кафедры, кандыдат мастацтвазнаўства Н.Я. Трыфанава. Сумяшчаючы выкладчыцкую дзейнасць ва ўніверсітэце з працай у старажытнабеларускім аддзеле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь (далей – НММ РБ), Наталля Якаўлеўна актыўна ўдзельнічае ў многіх выставачных праектах музея («Алтарны жывапіс Беларусі», «Праваслаўны абраз Расіі, Украіны і Беларусі» і г. д.). На сённяшні дзень даследчыца паспяхова працуе над каталогамі кірыліцкіх і лацінскіх выданняў XVI–XIX стст. у зборы НММ РБ.

Плённа супрацоўнічае з НММ РБ і кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры Іна Рыгораўна Томашава. Займаючыся праблемамі ўзаемаўплыву беларускага і рускага мастацтва, даследчыца прымала актыўны ўдзел у падрыхтоўцы сучаснай экспазіцыі рускага мастацтва XVIII–XX стст. і беларускага мастацтва XIX – пачатку XX ст. у НММ РБ. У апошні час галоўнай сферай зацікаўленасці І.Р. Томашавай з'яўляецца вывучэнне дзейнасці пецярбургскай мазаічнай майстэрні А. Фралова (у тым ліку і па помніках беларускага рэгіёна).

Рознабаковая навуковая дзейнасць супрацоўнікаў кафедры садзейнічала ўдасканаленню вучэбна-метадычнай работы. У 2004 г. па ініцыятыве кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў на гістарычным факультэце БДУ ў рамках спецыяльнасці «Музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны» быў адкрыты накірунак спецыялізацыі «мастацтвазнаўства і музеялогія». Кафедра пачала падрыхтоўку спецыялістаў-мастацтвазнаўцаў. Паспяхова развіваючаяся спецыялізацыя з кожным годам прыцягвала ўсё большую колькасць студэнтаў, якія цікавяцца мастацтвам і жадаюць паглыблена яго вывучаць, і ўжо ў 2006 г. спецыялізацыя «гісторыя мастацтваў» была адкрыта і на аддзяленні «гісторыя».

Існаванне спецыялізацыі «гісторыя мастацтваў» менавіта на гістарычным факультэце больш чым апраўдана. Паколькі пры вывучэнні ўласна гістарычных дысцыплін *асноўная* ўвага заўсёды ўдзяляецца пытанням палітыкі і сацыяльна-эканамічнага жыцця, а ўвесь спектр праблем, якія тычацца развіцця культуры і асабліва мастацтва, адцясняецца на другі, і нават на трэці, план, гістарычную адукацыю без блока дысцыплін па гісторыі мастацтва нельга лічыць паўнавартаснай і гарманічнай. Любы твор мастацтва – гэта не толькі вынік творчасці ўнікальнай асобы, але перш за ўсё – помнік эпохі, акрамя суб'ектыўных перажыванняў свайго творцы, нясе ў сабе аб'ектыўную інфармацыю аб часе, стварыўшым яго. Убачыць твор мастацтва як гістарычную крыніцу – значыць больш глыбока, больш ярка і эмацыянальна адчуць і зразумець мінулае.

Не менш заканамерна існаванне падобнай спецыялізацыі на аддзяленні «музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны». У сваёй прафесійнай дзейнасці амаль кожны музейны супрацоўнік так ці інакш сутыкаецца з мастацкімі творамі. І гэта тычыцца не толькі супрацоўнікаў мастацкіх музеяў, галерэй, выставачных залаў. У зборы любога краязнаўчага, этнаграфічнага і большасці музеяў іншых профіляў знаходзяцца творы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Работа з імі патрабуе ад музейшчыка ведаў і ўменняў у галіне атрыбуцыі, экспертызы, ацэнкі твораў

мастацтва, а таксама іх інтэрпрэтацыі ў якасці музейнага прадмета. Граматна справіцца з гэтым зможа толькі той спецыяліст, які ў працэсе навучання засвоіў увесь комплекс як агульных музеязнаўчых, так і мастацтвазнаўчых дысцыплін.

Імкнучыся да таго, каб навучанне па спецыялізацыі «гісторыя мастацтваў» было максімальна змястоўным, разнастайным і цікавым, кафедра этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў распрацавала сістэму агульных і спецыяльных курсаў: «Усеагульная гісторыя мастацтваў», «Мастацтва Беларусі», «Мастацтва краін Усходу», «Тэорыя мастацтва», «Мастацкая крытыка», «Атрыбуцыя і экспертыза твораў мастацтва», «Актуальныя праблемы сучаснага мастацтва» і інш.

Улічваючы спецыфіку вывучаемага матэрыялу, большасць лекцый па гісторыі і тэорыі мастацтва праводзіцца ў камп'ютарных класах з выкарыстаннем сучаснай DVD-апаратуры, якая дазваляе забяспечыць высокую якасць рэпрадуктаванай відэаінфармацыі. Семінарскія заняткі, як правіла, арганізоўваюцца на базе НММ РБ і шэрагу іншых музеяў горада Мінска. У падрыхтоўцы спецыялістаў-мастацтвазнаўцаў галоўны прынцып выкладання – як можна больш абагульнення і работы з арыгінальнымі творамі мастацтва. Гэтаму вельмі садзейнічае і той факт, што ўсім студэнтам, якія спецыялізуюцца на кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў, на ўвесь перыяд навучання забяспечваецца права бясплатнага наведвання асноўнай экспазіцыі і ўсіх выстаў, што арганізуюцца НММ РБ.

Усе дысцыпліны спецыялізацыі чытаюцца або супрацоўнікамі кафедры, або спецыяльна запрошанымі спецыялістамі, якія маюць вялікі вопыт работы з канкрэтнымі мастацкімі калекцыямі. Сярод апошніх асабліва хацелася б адзначыць А.У. Сянкевіч – загадчыцу аддзела замежнага мастацтва і краін Усходу НММ РБ. Буйнейшы ў рэспубліцы спецыяліст па мастацтву краін Далёкага Усходу (Кітай, Карэя, Японія), Алена Уладзіміраўна з'яўляецца таксама шырока практыкуючым экспертам па дэкаратыўна-прыкладному мастацтву. У апошні час яна паспяхова спалучае работу над каталогам «Кераміка і фарфар Кітая ў зборы НММ РБ» з выкладаннем на кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў дысцыпліны «Мастацтва краін Усходу».

Не менш паспяховым для развіцця спецыялізацыі «гісторыя мастацтваў» стала супрацоўніцтва кафедры з кандыдатам мастацтвазнаўства, загадчыцай аддзела навукова-асветнай работы НММ РБ І.М. Скварцовай. Вядомая перш за ўсё як спецыяліст па тканінах XVIII – XIX стст., Ірына Мікалаеўна не менш актыўна займаецца праблемамі сучаснага мастацтва. Будучы куратарам многіх выстаў сучасных беларускіх мастакоў, І.М. Скварцова зарэкамендавала сябе як творчая асоба, прафесійны лектар, распрацоўшчык арыгінальнага аўтарскага курса па асновах мастацкай крытыкі.

Моцныя сувязі, якія даўно ўсталяваліся з НММ РБ – буйнейшым у краіне зборам твораў жывапісу, скульптуры, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, адным з вядучых цэнтраў па вывучэнню айчыннага і сусветнага мастацтва, – дазваляюць захаваць неабходны ў адукацыйным працэсе баланс паміж тэорыяй і практыкай. Акрамя таго, многія студэнты, якія выдатна праявілі сябе падчас вучобы, атрымліваюць рэальную магчымасць затым працаўладкавацца ў музей у якасці маладых спецыялістаў.

Для тых жа выпускнікоў, якія жадаюць працягнуць навуковую дзейнасць, на кафедры існуе магістратура па спецыяльнасці 1-21 80 14 «Мастацтвазнаўства». Для магістрантаў выкладчыкамі кафедры чытаецца спецкурс «Метадалогія мастацтвазнаўства» і кожны год абнаўляецца ў залежнасці ад навуковых інтарэсаў магістрантаў курс, прысвечаны найбольш актуальным праблемам беларускага мастацтва.

У мэтах папулярызацыі мастацтва, а таксама для падтрымкі ў працэсе навучання творчых, крэатыўных абставін на кафедры з 2008 г. дзейнічае «Клуб аматараў і знаўцаў мастацтва». Сярод яго пастаянных членаў – студэнты розных курсаў, а таксама магістранты, прычым якія спецыялізуюцца не толькі па накірунку «гісторыя мастацтваў». Клуб адчынены для кожнага, хто жадае ўдасканальваць свае веды, расшырыць кругагляд і праз сутыкненне са светам мастацтва прыдаць сваёй адукацыі тую ступень завершанасці, без якой немагчыма прадставіць па-сапраўднаму інтэлігентнага чалавека.

Пасяджэнні клуба праводзяцца кожны месяц, і іх тэма вызначаецца выключна з улікам інтарэсаў і прапаноў студэнцкай аўдыторыі. З вялікім поспехам у мінулым вучэбным годзе прайшлі клубныя сустрэчы, прысвечаныя мастацтву карыкатуры, беларускаму шклу, японскай кераміцы, сучаснаму кіно. Формы работы клуба вельмі разнастайныя: «круглыя сталы», інтэрактыўныя заняткі, наведванне мастацкіх выстаў і майстэрняў, творчыя сустрэчы з беларускімі мастакамі і мастацтвазнаўцамі. У бліжэйшых планах клуба – экскурсіі і паездкі па Беларусі і бліжняму замежжу.

Станоўчыя водгукі студэнтаў аб рабоце кафедры, пастаянна растучая (нягледзячы на існуючы конкурс) колькасць жадаючых спецыялізавацца па напрамках «гісторыя мастацтваў» і «мастацтвазнаўства і музеялогія» дазваляюць калектыву кафедры спадзявацца на тое, што на гістарычным факультэце БДУ дадзеныя накірункі спецыялізацыі будуць працягваць развівацца і ў далейшым.

[1] Гл.: Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: новая концепция. Мн., 1991.

[2] Гл.: Навагродскі Т.А. Традыцыі народнага харчавання беларусаў. Мн., 2000; Маховская И.С. Белорусская традиционная родинная обрядность в восточноевропейском контексте (кон. XIX – нач. XX в.). Мн., 1999.

[3] Гл.: Медяник В.И., Захаркевич С.А. Современные проблемы защиты национальных меньшинств в странах Европы. Мн., 2002; Внуковіч Ю.І. Літоўская этнічная група Рэспублікі Беларусь. Мн., 2008.

[4] Гл.: Махнач А.И. Эволюционизм в белорусской этнологии второй половины XIX – начала XX вв. Мн., 2005; Міхайлец М.А. Польская этналогія XIX – першай паловы XX стагоддзя аб матэрыяльнай культуры беларусаў. Мн., 2008; Олюнина И.В. Трансформации социальной культуры Полесья в исследованиях польских этнологов 1920–30-х гг. Мн., 2008.

[5] Гл.: Этналогія Беларусі: традыцыйная культура насельніцтва ў гістарычнай перспектыве: Вучэб.-метад. дапам. / Т.А. Навагродскі і інш. Мн., 2009.

[6] Гл.: Ц і т о ў  В. С. Народная спадчына. Мн., 1994.

[7] Гл.: Я ш ч а н к а  А. Р. Гомель у другой палове XIX – пачатку XX ст.: гісторыка-этнаграфічны нарыс. Гомель, 1997.

[8] Гл.: Л о б а ч  У. А. Уяўленні аб прасторы і часе ў традыцыйным светапоглядзе беларусаў (па этнаграфічных і фальклорных матэрыялах XIX – пач. XX ст.). Мн., 2003.

[9] Гл.: К а с ц ю к е в і ч  С. У. Семантыка і функцыі традыцыйных цацак беларусаў у XIX–XX стст. Мн., 2004.

[10] Гл.: Л у й г а с  Н. Я. Гістарыяграфія праблемы сям'і беларусаў у XIX–XX стст. Мн., 2003.

[11] Гл.: Ж л о б а  С. П. Народная педагогика Полесья: по материалам этнографических исследований. Брест, 2002.

[12] Гл.: Г у ж а л о ў с к і  А. А. Нараджэнне беларускага музея. Мн., 2001; Ё н  ж а. Музеі Беларусі. 1918–1941. Мн., 2002; Ё н  ж а. Музеі Беларусі 1941–1991. Мн., 2004; Г р и ц к е в и ч  В. П., Г у ж а л о в с к и й  А. А. История музеев мира: Учеб. пособие. Мн., 2003.

[13] Гл.: Б я р э й ш ы к  Л. У., Г у ж а л о ў с к і  А. А. Музеі замежных краін. Музеі Еўропы: Вучэб. дапам. Мн., 2004; Я н ы  ж. Музеі замежных краін. Музеі Азіі, Амерыкі, Аўстраліі, Афрыкі: Вучэб. дапам. Мн., 2008.

[14] Гл.: Г у ж а л о в с к и й  А. А. Мифологизация историко-культурного наследия // Исторические экспозиции региональных музеев в постсоциалистический период: Сб. СПб., 2009. С. 106–113; Ё н  ж а. Подготовка музейных специалистов в Республике Беларусь // Региональная конференция музейных специалистов стран СНГ // CD-ROM «Управление музеем – XXI век. Презентационные и учебные материалы проекта ЮНЕСКО/МФГС для государств – участников СНГ по музейному менеджменту на основе публикаций ЮНЕСКО/ИКОМ. 2008–2010»; Ё н  ж а. Основные подходы к интерпретации Второй мировой войны в музеях // Беларусь: история и современность: Междунар. науч.-практ. конф. (Минск, 25–27 мая 2011 г.): Докл. и сообщ. Мн., 2011. С. 44–47; Б я р э й ш ы к  Л. У. Музеялогія ў сістэме міждысцыплінарнасці // Этнокультурное развитие Беларуси в XIX – начале XXI в.: Материалы Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 19–20 мая 2010 г. Мн., 2011. С. 229–235; З д а с ю к  Н. М. Крыніцазнаўчыя даследаванні беларускіх музеяў: аналіз публікацый // Этнокультурное развитие Беларуси в XIX – начале XXI в.: Материалы Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 19–20 мая 2010 г. Мн., 2011. С. 246–250; С і м а к о в а  І. М. Экспазіцыйнае праектаванне ў этнаграфічных музеях Беларусі ў канцы XX – пачатку XXI ст. // Беларусь: история и современность: Междунар. науч.-практ. конф., Минск, 25–27 мая 2011 г. Мн., 2011. С. 83–85; Я н а  ж. Вучэбныя калекцыі Віцебскай гімназіі // Адукацыя на Віцебшчыне: гісторыя і сучаснасць: Матэрыялы рэсп. навук.-практ. канф., Віцебск, 30–31 сак. 2010 г. Віцебск, 2010. С. 30–33.

Паступіў у рэдакцыю 17.05.11.

***Тадэвуш Антонавіч Навагродскі*** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў. Сфера навуковых інтарэсаў – традыцыйная беларуская культура, гістарыяграфія этналогіі Беларусі, методыка палявых этнаграфічных даследаванняў, этнічныя групы і міжэтнічныя адносіны ў Рэспубліцы Беларусь. Аўтар больш за 120 навуковых публікацый, у тым ліку манаграфіі і вучэбнага дапаможніка.

***Аляксандр Аляксандравіч Гужалоўскі*** – доктар гістарычных навук, дацэнт, прафесар кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў. Сфера навуковых інтарэсаў – гісторыя, тэорыя і методыка музейнай справы, гісторыя культуры Беларусі. Аўтар больш за 85 навуковых публікацый, у тым ліку 3 манаграфій і 2 вучэбных дапаможнікаў.

***Іна Рыгораўна Томашава*** – кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў. Сфера навуковых інтарэсаў – беларускае мастацтва XVII–XVIII стст., рускае мастацтва XIX ст. Аўтар звыш 25 навуковых публікацый.